ДЕНЬ

НАША БУДУЧЫНЯ

Знаёмімся з 11 «Б» класам школы № 11 стар. 15



Штотыднёвік, выдаецца з красавіка 2001 года, выходзіць штočацвер, выдавец і заснавальнік ТДА «Дзеньпрэс»

12 – 18 лютага 2004 года | № 3 (175) | Кошт 500 рублёў

# Гарбасты лёс

**«Лесвіца закаханых», што вядзе ад Старога і Новага замкаў усё ж будзе адрэстаўравана. Гарадзенскія рэстаўратары абверглі чуткі пра нібыта запланаванае знішчэнне «Лесвіцы» і сцвярджаюць, што з мэтай зрабіць прагулкі гарадзенцаў ля Нёмана больш прыемнымі, папулярныя сходы плануецца падсвяціць адмысловымі ліхтарамі.**

– *У траўні 2003 года наша рэстаўрацыйна-праектная майстэрня атрымала заказ на стварэнне праекту рэканструкцыі «Лесвіцы» і маста паміж замкамі. Мост ужо рэстаўруецца, а наконт лесвіцы яшчэ вядуцца распрацоўкі, якія пасля мусяць быць яшчэ зацверджаныя кіраўніцтвам нашай установы,* – адзначыла ДНЮ кіраўнічка аддзела рэстаўрацыі унітарнага прадпрыемства «Гроднаграмадзянпраект» **Вольга Спічка.**

Сёння мала ў каго павярнуўся б язык назваць гэтыя, некалі рамантычныя, сходы да Нёмана «Лесвіцай закаханых». Паразбіваныя бутэлькі, недапалкі цыгарэтаў ды ўсялякае смецце паміж хмызоў. Гэта месца не для закаханых, а хутчэй для зборышчаў ардынарных выпівохаў ды вулічных забіякаў. Нездарма там рэгулярна курсуюць міліцэйскія нарады. А нейкіх пяцьдзесят гадоў таму ўсё было інакш...

## Маладосць любімых сходаў

У сярэдзіне мінулага стагоддзя «Лесвіца закаханых» сапраўды адпавядала свайму тытулу. Пасля ваеннага ліхалецця і напаўгаладнай другой паловы саракавых, ужо ў 1950-я яна мела досыць салідны выгляд і стала месцам сустрэчаў тадышняй савецкай моладзі. І не дзіва, бо ў паблізкім гістарычным будынку жыдоўскай сінагогі месціўся студэнцкі інтэрнат гарадзенскага педінстытута.

*Працяг на стар.3*



Фота ByMedia.net

*«Лесвіца закаханых». На ўзмежку 1950-60-х гадоў тут было вельмі ажыўлена...*

# Кайра бомбу не знайшла

**Амаль тры гадзіны на холадзе правялі ў мінулы панядзелак жыхары дома №2А, што па праспекце Касманаўтаў. Увесь гэты час у іх доме працавалі сапёры – шукалі выбуховае прыстасаванне.**

Званок на пульт дзяжурнага Кастрычніцкага РАУСа паступіў у 14.45. Невядомы паведаміў, што ў доме №2А па праспекце Касманаўтаў закладзена бомба.

Супрацоўнік інжынерна-піратэхнічнай службы вайсковай часткі №5522 Уладзімір Фралоў да падобных «жартаў» ужо даўно прызвычаіўся. Аднак нашаму карэспандэнту прызнаўся, што ў гэты раз на душы было неспакойна:

– *Нам часцей за ўсё прыходзіцца выязджаць на размініраванне школаў, і як правіла трывога аказваецца ілжывай,* – гаворыць **Уладзімір Фралоў.** – *А тут жылы дом...*

Бомбу шукалі амаль тры гадзіны. З-за гэтага з трохпад'езднага пяціпавярховіка давялося эвакуяваць усіх жыльцоў. Затым сем сапёраў крок за крокам абследавалі пад'езды, падвалы і дах. Аднак ні прафесіяналы, ні адмыслова надрэсіраваныя на пошук выбуховых прыстасаванняў кокер-спаніель Кайра і нямецкая аўчарка Вуллі, ніякіх небяспечных прадметаў не знайшлі.

Уладзімір Фралоў адзначае, што сярод жыхароў дома панікі не было. Наадварот, пільныя бабулькі падказвалі сапёрам, у якіх цёмных закутках можа быць схаваная бомба.

Паводле інфармацыі інжынерна-піратэхнічнай службы, з пачатку года на размініраванне прыходзілася выязджаць ужо тройчы. Выбуховыя прыстасаванні шукалі ў лідскай сярэдняй школе і гарадзенскай кавярні «Рамантыка».

**Юлія ДАРАШКЕВІЧ**

## Дня НАДВОР'Е

**12 лютага** па Гродне пахмурна удзень -11..-9, уначы-13..-14, без ападкаў;

**13 лютага:** вобл., удзень-11..-9, уначы-13..-11, без ападкаў;

**14 лютага:** вобл., удзень +1, уначы +2, дождж;

**15 лютага:** вобл., удзень -3, уначы -2, без ападкаў;

**16 лютага:** вобл., удзень -3, уначы -10, без ападкаў;

**17 лютага:** пахмурна, удзень +1, уначы -1, без ападкаў;

**18 лютага:** вобл., удзень +1, уначы -3, без ападкаў.

# Перамогі і паразы старшыні Тадэвуша Гавіна

**Прэзентацыя кнігі ганаровага старшыні Саюза палякаў на Беларусі Тадэвуша Гавіна пад назвай «Перамогі і паразы» адбылася ў мінулую нядзелю ў школе № 36. Арганізатарам мерапрыемства выступіў Гарадзенскі гарадскі аддзел СПБ.**

Кніга Тадэвуша Гавіна распавядае пра няпросты жыццёвы шлях яе аўтара, пра ўсведамленне ім сваёй нацыянальнай ідэнтычнасці і пра барацьбу за адраджэнне польскай нацыянальнай свядомасці на Беларусі. На гэтым шляху ў Тадэвуша Гавіна было шмат перамогаў: стварэнне найбуйнейшай грамадскай арганізацыі на Беларусі, стварэнне польскамоўнага штотыднёвіка, будова польскіх школаў ... Але былі і паразы.

– *Самай галоўнай сваёй паразай я лічу, тое, што не перадаў арганізацыі ў рукі дастойнага чалавека,* – заявіў **Тадэвуш Гавін**.

Характэрнай прыкметай ненармальнасці сітуацыі, у якой сёння знаходзіцца арганізацыя, з'яўляецца тое, што ні на паседжанне найвялікшага аддзелу СПБ, якое адбылося перад прэзентацыяй, і на саму прэзентацыю не з'явіліся старшыня СПБ Тадэвуш Кручкоўскі і ягоныя намеснікі. Больш таго, напярэдадні мерапрыемства ў Glos znad Niemna з'явілася інтэрв'ю Кручкоўскага, у якім ён палівае брудам былое кіраўніцтва арганізацыі. У такіх умовах сябры СПБ былі вымушаныя галасаваць за тое, каб выбраныя часткі кнігі ганаровага старшыні іх арганізацыі былі надрукаваныя ў газеце, заснавальнікам якой з'яўляецца СПБ. Апошняе патлумачыў адзін з прысутных:

– *Я лічу, што гэта вельмі цікавая і патрэбная кніга. Наклад яе невялікі і таму было б вельмі добра, каб Glos znad Niemna надрукаваў яе фрагменты. Будзем спадзявацца, што Кручкоўскі, які цэнзуруе нашу газету, не забароніць гэта зрабіць.*

І ўсё ж такі мерапрыемства прайшло ў дабразычлівым і аптымістычным настроі. На заканчэнне прысутныя заспявалі Тадэвушу Гавіну традыцыйнае польскае «Sto lat».

**Альгерд ТАЛКАНІЦА**



Фота Яраслава ВАНЮКЕВІЧА

*Тадэвуш Гавін (злева) падпісвае кнігу сябрам*

## Падпішыся!!!

ДЕНЬ атрымаў першы ліст! Аўтар ліста – жыхар горада Барысава – Алесь Шустоўскі. Спадар Шустоўскі, які пачуў пра ДЕНЬ з рэпартажу на радыё СВАБОДА, віншуе ПАГОНЯўцаў з вяртаннем у журналістыку. Акрамя таго, ён узгадвае, што газета з назваю ДЕНЬ выходзіла на пачатку 90-ых у Расеі і мела славу чорнасоценнага выдання.

– Няўжо не маглі ПАГОНЯўцы прыдумаць іншую назву для беларускай газеты? – задаецца пытаннямі спадар Алесь. – А можа такі выбар трэба разумець як тое, што вы збіраецеся працягваць традыцыі чорнасоценнага «Дня»?

Адразу скажу , што адносіны да чорнасоценцаў у нас такія самыя, як і ў кожнага прыстойнага чалавека – рэзка адмоўныя. І ў беларускай мове, сапраўды, шмат добрых словаў, якія маглі б стацца назвай нашай газеты. Толькі праблема ў тым, што не мы выбіралі гэтую назву.

У сувязі з тым, што ўлада не дазволіла нам зарэгістраваць новае выданне ў Гродне, давялося пераймаць ужо зарэгістраваную газету. Прычым не ў Гродне, а ў Менску. Да таго ж з назвай на рускай мове... Аднак, пасля нядоўгіх развагаў, мы вырашылі, што мець адно расейскае слова ДЕНЬ у беларускамоўнай газеце, гэта значна лепш, чым не мець анічога.

Яшчэ адно пытанне цікавіць спадара Шустоўскага: як і дзе набыць «ДЕНЬ»? На жаль, адзінай магчымасцю атрымліваць нашую газету, застаецца падпіска. Прычым выключна праз пералічэнне грошай на рахунак нашага Менскага выдаўца. Падпіска на месяц каштуе 2000 рублёў, а на квартал – 6000.

Зрабіць пералічэнне найлепей праз аддзяленні «Беларусбанка», які бярэ мінімальную плату за пераводы. У графе «Атрымальнік» пазначайце **«ТДА «Дзеньпрэс, УНН 190193963»**. Наш рахунак: **3012000011850** у **«Белгазпрамбанку»**, ягоны код – **742**. Свой адрас і прозвішча падавайце разборліва. У графе «від плацяжу «напішыце: **«Падпіска на газету «ДЕНЬ»**. У гэтым месцы патрэбна таксама пералічыць месяцы, на якія афармляецца падпіска.

Ксеракопію квітка, з адзнакай аб пералічэнні грошай, неабходна перадаць ці пераслаць у рэдакцыю, альбо на гарадзенскі адрас: вул. Карла Маркса, 11 (другі паверх). Там жа Вам дадуць усе кансультацыі па афармленні падпіскі (тэлефон: 72-29-96)

Гарадзенцам газета дастаўляецца адмысловымі кур'ерамі ў дзень выхада – у чацвер. Жыхары Гарадзеншчыны атрымліваюць ДЕНЬ звычайнай поштай на наступны дзень пасля выхаду. Падпісчыкі з іншых рэгіёнаў, зразумела, атрымаюць нашую газету з большым спазненнем.

Але, усё ж такі, атрымаюць!

**Мікола МАРКЕВІЧ**

# Гонар будзем мець

**Кнігу Гонару ўпершыню ў сваёй гісторыі заснаваў Гарадзенскі аблвыканкам. Такім чынам, чыноўнікі паспрабуюць надаць жыхарам Гарадзеншчыны маральны стымул для падвышэння прадукцыйнасці працы. У Кнігу патрапяць тыя «выбітныя грамадзяне», хто, на думку мясцовых органаў выканаўчай улады, зробіць значны ўнёсак у сацыяльна-эканамічнае развіццё нашага краю. Ацэнку паспяховасці задумы чыноўнікаў аблвыканкама даюць сёння нашыя эксперты і наведвальнікі сайта pahonia.promedia.by**

### *Ці ўздыме Кніга Гонару працоўны дух гарадзенцаў?*

**ЗА**





■ ***Казімір Рахатка,*** *дырэктар Лідскага раённага сельскагаспадарчага унітарнага прадпрыемства «Мажэйкава». Член Пастаяннай камісіі Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па міжнародным справам і нацыянальнай бяспецы. Заслужаны работнік сельскай гаспадаркі Рэспублікі Беларусь, кандыдат эканамічных навук:*

– А чаму б і не. Я так разумею, што ў гэтую Кнігу будуць заносіцца прозвішчы годных людзей. Мы ў сябе таксама практыкавалі маральнае стымуляванне. У нас штосьці падобнае ёсць у сельсавеце і людзі нармальна рэагуюць. Няхай сабе і нечым цягне з застойных часоў. Я, асабіста, падтрымліваю ідэю стварэння Кнігі Гонару. Сам я ў падобныя кнігі ні разу не трапляў. Ці хацеў бы? Ну, сам сябе я ў кнігу заносіць не буду. Адным словам, стварэнне Кнігі падтрымліваю.

**СУПРАЦЬ**



■ ***Аляксандр Прудзіла,*** *дацэнт кафедры псіхіятрыі з курсам агульнай псіхалогіі Гарадзенскага Дзяржаўнага Медычнага універсітэта:*

– У псіхалогіі кіравання прымяняецца тэорыя асобы Абрахама Маслоу, які падзяляе чалавечыя патрэбы на «дэфіцытарныя» і «побытавыя». Большасць насельніцтва Беларусі сёння занята задавальненнем сваіх «дэфіцытарных» патрэбаў – паесці, папіць, здабыць кватэру, атрымаць добры заробак.Чалавек больш за ўсё баіцца не смерці, а страты крыніцы даходу.

«Побытавыя» патрэбы – гэта патрэба чалавека ў сацыяльным прызнанні. Маральнае заахвочванне, ордэны, медалі, граматы – задавольваюць гэтую патрэбу.

У любым падручніку па псіхалогіі кіравання можна прачытаць, што адпаведны маральна-псіхалагічны клімат падвышае прадукцыйнасць працы на 18-20 %. Але ва ўмовах сённяшняй Беларусі, калі ўзровень заработнай платы не адпавядае ўзроўню цэнаў, любое маральнае стымуляванне прынцыпова не паўплывае на працоўны дух насельніцтва. Мы пачынаем задумвацца: хто мы такія, якое месца займаем у грамадстве ці з'яўляемся мы сацыяльна значымымі асобамі, – толькі тады, калі задаволеныя нашыя «дэфіцытарныя» патрэбы. Нават самае «ганаровае» маральнае стымуляванне, адчувальна не паўплывае на працаздольнасць работніка, калі яно адарвана ад адпаведнага жыццёвым патрэбам матэрыяльнага заахвочвання.

### *Ці ўздыме Кніга Гонару працоўны дух гарадзенцаў?*




*Вынікі інтэрнет-галасавання на http://pahonia.promedia.by*

**Беларуская апазіцыя атрымала прызнанне Усясветнага руху за дэмакратыю. На пачатку лютага беларускія змагары за свабоду і дэмакратыю, разам з дэмакратамі Судану, рухам ракі Мано ды ізраільскімі і палестынскімі грамадскімі арганізацыямі, былі ўганараваныя «Данінай адвазе дзеля дэмакратыі».**

**У лісце «Даніны адвазе», які быў уручаны старшыні Партыі БНФ Вінцуку Вячорцы, гаворыцца, што Усясветны рух за дэмакратыю выказвае салідарнасць з мірнай барацьбой «за дэмакратыю і чалавечую годнасць», якую вядзе дэмакратычны рух у Беларусі.**

***Ці лічыце вы сябе беларускім апазіцыянерам?***

Чакаем вашых меркаванняў у пятніцу 13 лютага з 18 да 19 гадзінаў па тэлефоне:

**72-29-96**




# Пенсія

Пенсія – гэта грошы, якія старэйшыя людзі атрымліваюць за тое, што жылі і працавалі пры сацыялізме. Тады не было беспрацоўя. Наадварот, было поўна дурной работы, на якую людзей бракавала. Пры сацыялізме мелася быць усім добра, таму заробкі былі малыя і роўныя, а пенсіі – «быле дажыць да смерці».

Таму кожны свежаспечаны пенсіянер... ішоў да работы, каб дарабіць пенсію. Так, мая маці-бухгалтар была ў гарачым цэху, а бацька-настаўнік – у качагарах. Сацыялізм быў бедны, але роўны – таму яго мелі за справядлівы.

Несправядлівасць пайшла цяпер, калі – рынак, інфляцыя і грошы, грошы, грошы... Пенсія, як справядлівасць, гэта адзінае, што засталося нашым бацькам, чыё жыццё было не жыццём, а будовай сацыялізму, які памёр яшчэ раней за іх.

Цэны бягуць – пенсія даганяе. Пенсія даганяе – цэны бягуць... Пра цэны бацькі ўжо не гавораць, гавораць пра пенсіі, бо цэны ад чорта, а пенсіі яны зарабілі, потым дарабілі і цяпер маюць іх за справядлівасць. Адзіная шчырая вера ў справядлівасць і пенсіі. Гэта значыць, каб пенсіі хапіла ўсім разам да самае смерці кожнага паасобку.

Цяпер гэтую веру бяруцца ламаць. Тым ламаць, што падвышаюць у кожную зіму пенсію. Пасля чаго, дзевяць месяцаў услед шалеюць цэны. І чым вышэй расце пенсія – тым менш застаецца бацькам справядлівасці. Таму што ў нашым гасцінным Краі, ёсць мноства аселых чужых пенсіянераў, якія не хацелі дарабіць пенсіі: па качагарках і гарачых цахах, як мае бацькі. Ім тое было не трэба, бо яны – палкоўнікі і генерал-палкоўнікі. І пенсіі ў іх былі такія, пра якія ў газетах не пісалі.

Цяпер гэтыя генеральскія пенсіі на кожны канец зімы, бяруцца, згодна з інструкцыяй, падвышаць гэтаксама, як пенсіі маіх бацькоў – бухгалтара і настаўніка пасля гарачага цэху і качагаркі. Пры росце пенсіі на 18% ад ста тысячаў, – гэта рост на 18 тысячаў, але ад трохсот тысячаў, – гэта ўжо будзе 54 тысячы – у паўтары разы.

Пакуль прэзідэнт душыць прэм'ера за бюджэт, «дзевачкі сагласна інструкцыі», адшпільваюць штомесяц на 162 тысячы палкоўнікаў – 50 тысячаў кожнаму нізашто-ніпрашто. Пасля чаго бюджэт ідзе ва-банк і дзевяць месяцаў растуць цэны.

Я не пытаю, чаму савецкім чэкістам і танкавым палкоўнікам плаціць пенсіі Рэспубліка Беларусь – плаціла б Расейская Федэрацыя, калі яна «правопреемница СССР», але я не разумею, чаму пры дэфіцыце бюджэту, кожнае падвышэнне пенсіі падвышае савецкіх палкоўнікаў над маімі бацькамі.

Я разумею так, што на 18% мела б расці самая малая пенсія. А трохі большая – на 15%, а яшчэ большая – на 10%, а тым палкоўнікам – на 0%. «Уравниловка?!» Не, проста справядлівасць на старасць. А там смерць параўняе. Там усе будуць роўныя.

Халуйства нашае перад палкоўнікамі савецкімі – вось цэлы бюджэтны дэфіцыт Беларусі і няма больш важных, іншых прычынаў. ■




**згубленыя** гарадзенцамі рэчы захоўваюцца сёння ў стале знаходак аддзела ўнутраных справаў адміністрацыі Ленінскага раёна г.Гродна. Сярод знаходак пераважаюць дакументы: пашпарты, ваенныя білеты, працоўныя кніжкі, пасведчанні аб правах на ільготы, пенсійныя пасведчанні і пасведчанні аб інваліднасці. Ёсць таксама сіняя спартовая сумка з лахманамі і медалі Другой сусветнай вайны. Абслугоўвае стол знаходак старэйшы інспектар Адзела па бяспецы і правапарадку Сяргей Вечар. Калі не знаходзіцца ўладальнік, пашпарты і ваенныя білеты Сяргей Вечар праз тыдзень перадае ў пашпартны стол і ваенкамат. Астатнія рэчы знаходзяцца ў стале на працягу шасці месяцаў, пасля чаго здаюцца ў даход дзяржавы.



## У Гродне чыталі...

**...30 год назад...**

«...Давняя шефская дружба связывает два коллектива: Гродненскую мебельную фабрику и орденоносный колхоз «Прогресс». Рабочие и сельские труженики не только помогают друг другу в выполнении государственного плана в уборке урожая, но и совместно проводят выходные дни, полезно и интересно отдыхают...»

**Сельская новь, 14 лютага 1974**

**...20 год назад...**

«Замерли станки в ремонтно-механическом цехе. В траурном убранстве конференцзал. Здесь собрались рабочие, инженерно-технические работники и служащие ПО «Азот» имени С. Притыцкого, чтобы почтить память Генерального секретаря ЦК КПСС, Председателя Президиума Верховного Совета СССР Юрия Владимировича Андропова»

**Гродзенская праўда, 13 лютага, 1984 года**

**...10 год назад...**

«... Некалькі соцень чалавек сабраліся ў гэты дзень на падворку дома, што прымыкае да плошчы Леніна. Тут ... адбылася сустрэча народных дэпутатаў... з выбаршчыкамі. Гарадскія ўлады не санкцыянавалі яе, растлумачыўшы гэта тым, што ініцыятары не прытрымліваліся прадугледжанага законам парадку арганізацыі такіх акцый. А ў арганізатараў было сваё меркаванне... Дэпутат гарадскога Савета Ю.Мацко, дэпутаты абласнога Савета А. Пяткевіч і Я.Скрабоцкі, народны дэпутат... М. Маркевіч выказалі свой пункт гледжання на палітычную і эканамічную сітуацыю ў нашай рэспубліцы...»

**Гродзенская праўда, 19 лютага 1994 года**



*Праз гэтую браму ў свой час хадзілі каралі...*

# Гарбасты лёс

*Працяг. Пачатак на стар. 1*

Крыху пазней да сходаў далучылі старанна выбеленыя тумбы з вазамі-кветніцамі, якія выклікалі ў аматараў вечаровых мацыёнаў вясёлае здзіўленне, бо рэзка кантраставалі з навакольнай зелянінай і былі своеасаблівымі маякамі ў паўзмроку. Але тады ў СССР насаджалася ўсеагульная «мода» на старанна пабеленыя балюстрады, бардзюры, розныя тумбы да помнікаў, вазаў ды іншых малых архітэктурных формаў...

Карэнныя гарадзенцы, якія жылі яшчэ «за польскім часам», успамінаюць пра хросны ход на праваслаўнае Хрышчэнне ад Пакроўскага сабору да Нёману. Шлях студзеньскае працэсіі пралягаў якраз на месцы тых самых сходаў. З цела замерзлае ракі загадзя выразаўся вялізны ледзяны крыж, і з крыжападобнае палонкі бралася вада для асвячэння. Цікава, што справа і злева ад сходаў, на ўзбярэжжы, жаўнеры польскага войска выстаўлялі дзве гарматы, і пасля ўрачыстага асвячэння епіскапам крыжа і палонкі, з тых гарматаў салютавалі...

На ўзмежку 1950-60-х гадоў рух на лесвіцы быў вельмі ажыўлены, бо да нёманскага берагу была «прышвартаваная» легендарная двухпавярховая баржа-рэстарацыя «Паплавок», дзе магло адначасна «весела гуляць і выпіваць» больш за 100 чалавек. У выходныя, зразумела, збіралася немалая чарга жадаючых пабаляваць на «Паплаўку». У тыя «застольныя часы» міліцыянты былі рэдкімі гасцямі як на самой лесвіцы, так і паблізу рэстарацыі. Па сведчаннях старых гарадзенцаў, яны, у адрозненні ад цяперашніх стражаў парадку, хадзілі без палак – «дэмакратызатараў». І гэта збольшага была ахова абкама кампартыі, што месціўся у Новым замку. Ім таксама часам хацелася выпіць і закусіць у «Паплаўку» – падалей ад вачэй партыйных босаў... А ў 1970-я ўспаміны па той баржы-рэстарацыі даўно сплылі па Нёмане ў нябыт.

У мінулым стагоддзі знакамітыя сходы некалькі разоў да паловы затапляліся вясновай паводкай і натуральным чынам разбураліся. На розных уладных узроўнях ішла гаворка пра рэстаўрацыю сходаў, але...

## Рэстаўрацыя ў прастрацыі

Па словах аўтарытэтнага гарадзенскага архітэктара Аляксандра Штэна, які да нядаўняга часу на працягу 10 гадоў узначальваў абласное аддзяленне Саюзу беларускіх архітэктараў, канцэпцыя рэстаўрацыі Старога і Новага замкаў разам з мастом існавала яшчэ 15 гадоў назад. Але тыя сходы да Нёмана ніхто з сур`ёзных спецыялістаў не лічыў нейкай гістарычнай каштоўнасцю.

Мабыць таму навуковы кіраўнік праекту рэканструкцыі маста менскі архітэктар Уладзімір Бачкоў увогуле не ўлічыў у сваёй рэстаўрацыйнай канцэпцыі аднаўленне «Лесвіцы закаханых». Паводле ягонага праекту ад «Лесвіцы» не павінна было застацца і следу. Але з гэтым не пагадзіліся гарадзенскія ўлады. І кампраміс быў знойдзены. І вось, нарэшце, у траўні мінулага года УП «Гроднарэстаўрацыя», якая падпарадкоўваецца Упраўленню культуры аблвыканкама аформіла заказ на праектныя працы. Сама ж «Гроднарэстаўрацыя» і займаецца рамонтам маста. Фінансаванне праекту ажыццяўляецца праз аблвыканкам.

– *Пра поўную гістарычную рэканструкцыю маста не можа ісці гаворкі,* – распавяла Вольга Спічка. – *Зараз мост мае тры пралёты, а раней жа іх было чатыры плюс драўляная частка ля брамы Старога замку. Першы этап рэканструкцыі – закрыццё існуючага маста і пабудова часовага драўлянага пераходу. Праект выкананы і запушчаны ў рэалізацыю. Але калі будзе закончана рэстаўрацыя асноўнага маста – невядома, бо ўсё зараз залежыць ад фінансавання...*

Што тычыцца аднаўлення «Лесвіцы закаханых», па словах Вольгі Спічкі, ужо зробленыя неабходныя замеры. У перспектыве «Лесвіца» мае быць добра асветленая ліхтарамі. Рэстаўратарка паведаміла, што аб`ём працы рэстаўратараў у самім Гродне ды вобласці настолькі вялікі, што яны не ўстане яго адужыць. Усе аб`екты рэстаўруюцца (ці будуюцца «пад даўніну») паступова. Найбольш інтэнсіўна праца ішла летась, бо 2003 год быў абвешчаны прэзідэнтам «Годам добраўпарадкавання Беларусі».

## Трэба раіцца з народам і спецыялістамі!

На тле будаўніцтва і рэстаўрацыі ў Гродне, меркаванне сябры Саюза беларускіх архітэктараў **Раланда Жамойціна** гучыць з пэўнай доляй адчаю:

– *У мяне даўно стварылася ўражанне, што ў нас у справе аднаўлення гісторыка-архітэктурнай спадчыны ніхто ніколі сур`ёзна не раіцца ані з шырокай грамадскасцю, ані з паважанымі спецыялістамі ў гэтай галін.*

На думку Раланда Жамойціна, усе «грандыёзныя праекты» выгадны толькі падрадчыкам-выканаўцам, якія маюць шанец няблага падзарабіць. Іх не цікавіць далейшы лёс аб`екта:

– *Проста на розных узроўнях улады прымаецца рашэнне і распачынаюцца працы. Пра наступствы ніхто не думае. Галоўнае, каб былі грошы пад праект. А іх апасля можа, як гэта часта ў нас здараецца, і не хапіць...*

Аднаўленне гістарычнай спадчыны ў апошні час становіцца канькom беларускіх уладаў. Разлік просты – атрымаць пад гэтую шляхетную справу замежныя інвестыцыі. Таму і паўстаюць з неверагоднай хуткасцю размашыстыя планы па аднаўленні таго ці іншага гісторыка-архітэктурнага аб`екта.

**Юры ГУМЯНЮК**

## Апытанне дня

### Якія адметныя гарадзенскія мясціны вы бы паказалі гасцям горада?

**Алена Папкова, пенсіянерка**

– У нас вельмі добры горад. Мне асабіста больш за ўсё падабаецца Стары Замак. Я часта там гуляю з унукамі.

**Кацярына Пятрова, Марына Сопат, дзевяцікласніцы школы-ліцэя №1**

– Безумоўна, Каложскую царкву і Замкі. Яшчэ нам падабаецца цэнтральная частка горада ўвечары. Там такія агні прыгожыя!

**Даша Раманюк, студэнтка ГрДзУ**

– Я бы параіла наведаць Каложскую царкву – гэта самы стары будынак у Гродне. А яшчэ сінагогу, хоць яна і напалову разбураная. Дакладна не павяла б турыстаў да драмтэатра ўвечары – там столькі п'яных!

**Алег Дроб, зваршчык**

– Паркі ў нас суперовыя, Замкавая вуліца вельмі прыгожая. Ну і музеі, безумоўна. Я быў у гістарычным музеі з год таму, мне спадабалася.

**Сяргей Крылоў, радыёінжынер**

– Адзін брук на вуліцы Савецкай чаго варты! Ну і ў заапарк варта схадзіць, ёсць там цікавыя экзэмпляры.

**Станіслаў Войшэль, дворнік**

– Я больш за ўсё люблю месца, дзе працую, дзе наводжу парадак. Унукаў ваджу ў музеі – гэта ж наша гісторыя. Яшчэ варта схадзіць у Сабор, Каложскую царкву, Фарны касцёл – старажытныя будынкі ўсе цікавыя.

**Сяргей Ціхановіч, доктар**

– Сваіх гасцей я бы вывез за горад ці ў Пышкі – там хоць паветра свежае. Шкада, што Аўгустоўскі канал для наведвальнікаў закрыты. А ў Гродне з адметнасцяў вартыя ўвагі Стары Замак, заапарк і помнік Элізе Ажэшка.

**Апытвалі Надзея ЕФІМЕНКА, Юлія ДАРАШКЕВІЧ**

### Самыя значныя архітэктурныя страты Гродна паводле Таццяны Маліноўскай:

| Што было | Калі знішчалася | Што сёння |
|---|---|---|
| Фара Вітаўта, помнік XVI ст. | 1961 год | Сквер паміж вуліцай Замкавай і Савецкай плошчай. |
| Касцёл Святога духа, помнік рэнэсанснай архітэктуры, XVI ст. | Пачалі знішчаць з 60-х гадоў XIX стагоддзя | Адміністрацыя Ленінскага раёна, па вуліцы Савецкай |
| Дамініканскі касцёл, XVII ст. | Канец 60-х гадоў XIX стагоддзя. Знішчаны расейскімі ўладамі "дабы не было соблазна местном населении" | Сквер на вуліцы Савецкай, дзе помнік Сакалоўскаму. |
| Гарадзенская ратуша, XVIII ст. | 1947-1948 гады | Частка Савецкай плошчы |
| Кармеліцкі касцёл, XVII ст. | Канчаткова знішчаны пасля Другой сусветнай вайны | Будынак Прыёрбанка ля піўзаводу |
| Палац Радзівілаў, XVIII ст. | Канчаткова знішчаны ў 40-ыя гады XX ст. | Частка сквера "пад танкам" паміж вуліцамі Баторыя і Маставой |
| Будынак старога чыгуначнага вакзала, XIX ст. | Сярэдзіна 80-х гадоў XXст. | Стаянка для аўтамабіляў паміж чыгункай і крамай "Спадарожнік" |
| Палац Станіслава з вялікім дваром XIX-XX стст. Друцкіх-Любецкіх | Пасля Другой сусветнай вайны | Будынак адной з кафедраў Аграрнага універсітэта па вуліцы Цімiразева |
| Сядзіба Панямунь, палац Урсын-Нямцэвічаў | Разбураецца апошнія 20-30 год | Выкрыстоўваецца пад жытло бамжамі |
| Рэальная вучэльня, пач. XX ст. | Разбурэнне цягнецца апошнія 20 год | Адміністрацыйны будынак Аграрнага універсітэта на рагу вуліц Акадэмічнай і 1 мая |

*Таццяна Маліноўская, старэйшая выкладніца кафедры беларускай культуры Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы. У 1988-1992 гадах начальнік аддзела гісторыка-архіўных даследванняў інстытута «Гроднапраектрэстаўрацыя»*

# Фронт маладых

**У Гродне створана абласная структура незарэгістраванай моладзевай арганізацыі «Малады Фронт». Узначаліў Раду арганізацыі Алесь Зарэмбюк, 21-гадовы дэпутат Мастоўскага раённага Савета дэпутатаў.**

Прыярытэтам сваёй дзейнасці на пасадзе старшыні Алесь Зарэмбюк назваў актыўную падрыхтоўку моладзі да выбараў у парламент Беларусі і мясцовыя Саветы.


Алесь Зарэмбюк

Абласная арганізацыя «Маладога Фронту» аб'яднала ў сваіх шэрагах прадстаўнікоў дзевяці раёнаў Гарадзеншчыны.

# Шукаем перспектывы

**Перспектывы Беларусі будуць абмеркаваныя ў Гродне ў панядзелак 16 лютага.**

У дыскусіі возьме ўдзел старшыня Таварыства Беларускай мовы імя Францыска Скарыны Алег Трусаў, які агучыць даклад на тэму станаўлення беларускай дзяржаўнасці. Гісторык Алег Трусаў працаваў дэпутатам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь XII-га склікання.

Дыскусія пачнецца а 19 гадзіне ў сядзібе Гарадзенскай арганізацыі ГА «БНФ Адраджэнне», па адрасе: К. Маркса, 11. Уваход вольны.

**І.П.**

# У абыход Закона?

**Пачатак будаўніцтва Гарадзенскай ГЭС на Нёмане быў прызначаны на 30 студзеня, аднак у апошні момант старт адклалі.**

«Па распараджэнні прэзідэнта,» – паведаміў генеральны дырэктар «Гродназнэрга» Уладзімір Шатэрнік. Як патлумачыў спадар Шатэрнік, юрыдычна выверанага афармлення адвода зямель няма. Затое ўсе астатнія ўзгадненні, паводле яго ных слоў, зробленыя. Праўда, размова ідзе, удакладніў Уладзімір Шатэрнік, пакуль што не пра саму ГЭС, а толькі пра будаўніцтва разгрузачнага канала (куды пусцяць раку, пакуль будзе будавацца плаціна).

Між тым, з Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, намі атрымана зусім іншая інфармацыя. Начальнік аддзела дзяржаўнай экалагічнай экспертызы Аляксандр Андрэеў заявіў, што архітэктурны праект Гарадзенскай ГЭС дагэтуль не прадстаўлены і ні пра якія высновы дзяржаўнай экалагічнай экспертызы не можа быць размовы. І хоць, па сцвярджэнні Уладзіміра Шатэрніка, будаўніцтва канала выдзелена ў асобны праект, цалкам зразумела, што гэта яго мы можам лічыць першай стадыяй будаўніцтва ГЭС.

Праектная магутнасць Гарадзенскай ГЭС – 17 мегават, што складае прыблізна 5-7 адсоткаў ад усяго аб'ёму спажывання электраэнергіі Гарадзенскай вобласцю. На яе будаўніцтва плануецца патраціць 28 мільёнаў USD. Агучаная не так даўно кіраўніцтвам краіны ідэя вытворчасці ўласнай электраэнергіі для продажу за мяжу, надае дадатковы імпульс будаўніцтву ГЭС.

Разам з тым, незалежныя эксперты лічаць, што ўзвядзенне яшчэ адной плаціны на Нёмане парушыць яго экалагічную раўнавагу, зменшыць – і без таго невялікую пасля пабудовы Каўнаскай плаціны – біяразнастайнасць ракі. Негатыўныя змены закрануць і літоўскую частку Нёмана. Аднак, праект будаўніцтва ГЭС не ўзгадняўся з адпаведнымі ведамствамі суседняй дзяржавы.

**Ніна ПАЛУЦКАЯ**

# «Польшча» вяртаецца!

**Тэлевізары жыхароў мікрараёна Фолюш на працягу мінулага тыдня «трэсла». Другога лютага ААТ «Гарант», якое займаецца абслугоўваннем калектыўных антэнаў, спыніла магчымасць прыёму ў гэтым раёне Першай праграмы польскага тэлебачэння. Увечары наступнага дня TVP 1 была вернута, аднак, сёння ніхто не можа сказаць упэўнена, што будзе далей з папулярнай сярод гарадзенцаў праграмай.**

Паводле інфармацыі супрацоўнікаў ААТ «Гарант», адключэнне адбылося на падставе загаду № 208, выдадзенага Міністэрствам інфармацыі 30 снежня 2003 года. Нагадаем, што згодна з гэтым загадам, TVP 1 пераведзена ў так званы «дадатковы» пакет тэлепраграмаў, за магчымасць прыёму якіх трэба дадатковa плаціць. Адключэнне TVP 1, з цягам часу, павінна было распаўсюдзіцца на цэлы горад. Аднак, ужо праз дзень пасля адключэння, польская праграма была вернута.

*– Так, на Фолюшы мы сапраўды адключылі «Польшчу», але потым вярнулі... Цяпер праграма паўсюдна прымаецца нармальна,* – патлумачыў намеснік дырэктара ААТ «Гарант» **Іосіф Сіцько.**

У Міністэрстве інфармацыі высветліць падрабязнасці «знікнення і вяртання» TVP 1 нам не ўдалося.

*– Гэта нейкая лухта, што вы тут у сваёй газеце напісалі... «Міністэрства інфармацыі глушыць TVP 1»... Мы тут усе смяяліся! Ніхто нікога не глушыць... Гэта цалкам беспадстаўныя абвінавачванні!... Мы ніякага загаду на адключэнне польскіх праграмаў не давалі... Адключэнне – гэта і ініцыятыва «Гаранта»,* – заявіла начальніца аддзела аналіза дзейнасці электронных СМІ Міністэрства інфармацыі **Ніна Раеўская**.

Мясцовыя ўлады запісалі вяртанне папулярнай тэлепраграмы на экраны тэлевізараў гарадзенцаў на свой рахунак.

*– Польшча застаецца! Ніхто яе адключаць не будзе... Гэта ўсё «Гарант» перабльтаў... Мы звярнуліся – і Міністэрства інфармацыі дало нам адпаведнае тлумачэнне... Польшчу можна будзе глядзець,* – запэўнівае начальнік Упраўлення інфармацыі і друку Гарадзенскага аблвыканкама **Уладзімір Амелька.**

Паводле кіраўніцтва «Гаранта», адключэнне TVP 1 не было іх уласнай ініцыятывай.

*– Міністэрства інфармацыі ўзгадніла нам пакет праграмаў, трансляцыя якіх абавязковая, і «Польшча» туды не патрапіла... Таму мы вымушаны былі яе адключыць, але потым былі нарады і прынята рашэнне яе вярнуць. Я на 100 адсоткаў упэўнены, што «Польшча» застанецца! Як мне здаецца, менскія таварышы, што намі кіруюць, не надта разумеюць нашую сітуацыю... Ну як гэта ўзяць і адключыць мясцовым палякам «Польшчу»? Прычым ніякай пагрозы гэтая праграма не нясе! Перад усім, па «Польшчы» гарадзенцы глядзяць надвор'е, «пра рольнікаў» і таму падобныя рэчы... Яе адключэнне становіцца справай палітычнай. Мы нібыта вярнуліся да маразма, які быў да 1985 года... Такога сабе, нават, Леанід Ілліч не дазваляў...,* – гаворыць Іосіф Сіцько.

**Андрэй ПАЧОБУТ**

# Школа сыплецца

## Але чыноўнікі ўпэўнены: вучням і настаўнікам нішто не пагражае

**У школе-ліцэі № 1 тыдзень таму абвалілася тынкоўка на лесвіцы паміж 2 і 3 паверхам. Праз два дні ўначы абваліўся парапет у школьным цiры, змясцілася адна са сценаў! Ці пагражае такі стан школы вучням і настаўнікам? Гарадзенскія чыноўнікі пераканаы, што не.**


Сёння будынак школы-ліцэя ўпрыгожвае аварыйная агароджа

### Сярэднестатыстычная школа?

Абвал парапета адбыўся ўначы з пятніцы на суботу. Відавочна, уліччышы вопыт трагедыі ў Краснапольскай школе, кіраўніцтва вобласці надзвычай аператыўна адрэагавала на здарэнне. Паводле нашай інфармацыі, месца здарэння пасля абвалу наведалі старшыня Гарадзенскага аблвыканкама Уладзімір Саўчанка, яго намеснік Марыя Бірукова, намеснік старшыні гарадзенскага гарвыканкама Валянцін Лявонаў...

Тым часам, у школе праходзяць нармальныя заняткі. Толькі праход пад «небяспечнай» лесвіцай перакрыты.

*– Настаўнікі нам забараняюць хадзіць пад лесвіцай. Праход заставілі партамі... Але калі захочаш, – можна хуценька прабегчы,* – гаворыць вучаніца 5 класа школы-ліцэя №1.

Будынак ціру зачынены і агароджаны дротам. Паводле словаў супрацоўнікаў школы, на працягу апошніх 15 гадоў цір не выкарыстоўваўся і ніякія заняткі там не адбываліся.

*– Такая сітуацыя з будынкам школы складваецца з вясны, і нічога новага не адбылося... Будынак стары... Сёння ў школе ідзе нармальны вучэбны працэс. Намі прыняты ўсе адпаведнія меры бяспекі. Тэрыторыя агароджана... Дзецям нічога не пагражае!... Мы ўважліва сочым за тым, каб тынкоўка захоўвалася належным чынам,* – гаворыць дырэктар школы-ліцэя № 1 **Анна Дулуб**.

Апошні рамонт школы, па словах дырэктара, адбыўся ў 1997 годзе. Школьны цір быў пабудаваны ў 1970 годзе.

*– Я бы вам раіла замест таго, каб цікавіцца толькі нашай школай, прахацца па іншых школах горада і ацаніць іх стан,* – гаворыць Анна Дулуб. На яе думку, стан школы-ліцэя №1 не адрозніваецца ад стану сярэднястатыстычнай гарадзенскай школы.

### Усе будзе добра?

*– Тут няма пра што размаўляць! Будынак ціру даўно не выкарыстоўваецца... Ёсць рашэнне пра яго ны знос, ужо нават грошы выдаткаваныя... Працы распачнуцца ў красавіку... Атрымалася так, што ён трохі раней пачаў сыпацца... Што ж тычыцца лесвіцы ў школе, то ёсць тэхнічнае пасведчанне, выдадзенае праекціроўшчыкамі аб тым, што яе стан нікому не пагражае... Афіцыйна заяўляю, што школа знаходзіцца ў нармальным стане, таму я не бачу ніякай патрэбы друкаваць нейкія артыкулы і, такім чынам, сеяць паніку сярод бацькоў і вучняў... А то адваліцца адна цэгла, а вы тут распішаце невядома што,* – заявіў карэспандэнту ДНЯ начальнік дзяржаўнага пажарнага надзору Гарадзенскага гарадского аддзела па надзвычайных сітуацыях **Іван Койта**. Паводле яго ных словаў, стан некаторых гарадзенскіх школаў выклікаў патрэбу дадаткова іх абследваць.

*– Гэта цяпер і адбываецца,* – гаворыць Іван Койта. Аднак паведаміць пра колькасць школаў, якія прыцягнулі ўвагу спецыялістаў, ён адмовіўся.

Нагадаем, што яшчэ 29 студзеня ў Гродне была створана адмысловая камісія, якая правярае стан гарадзенскіх школаў. Яе ўзначаліў намеснік старшыні гарвыканкама Анатоль Кунаш.

Дадатковай інфармацыяй пра становішча гарадзенскіх школаў валодаюць у аддзеле адукацыі Гарадзенскага гарвыканкама.

*– Адмысловая камісія праверала ўсе школы гораду... Пытанні былі толькі па школе №34, якая збудавана паводле таго самага праекта, што і Краснапольская школа... Усе астатнія школы ніякіх заўваг не выклікалі... Па школе-ліцэі №1 я нічога сказаць не магу, таму што асабіста на месцы здарэння не была,* – гаворыць начальніца аддзела адукацыі Гарадзенскага гарвыканкама **Вера Родзіна**.

Нягледзячы на ўвесь аптымізм гарадзенскіх чыноўнікаў, сітуацыя ў краіне не дае падставаў для такой самаўпэўненасці. Толькі з 4 на 5 лютага, паводле афіцыйных дадзеных Міністэрства па надзвычайным сітуацыям, адбыўся абвал 21 даха будынкаў рознага прызначэння.

**Андрэй АДЛЯНІЦКІ**

# Гарадзенская рок-князёўна

***Жыве на Пярэселцы, спявае ў рэстарацыі «Беласток» і чытае вершы Дануты Бічэль***

**АЙША – гэты гарадзенскі рок-гурт з экзатычнай назвай ужо даўно набыў вядомасць сярод аматараў року. Гурт з'яўляецца лаўрэатам фестываляў «Басовішча» і «Рок-губерталіі». Акрамя своеасаблівай музыкі, увагу слухача прыцягвае незвычайны голас вакалісткі – Вікторыі Фінскай. Сёння АЙША працуе над новай праграмай, прэзентацыя, якой мае адбыцца праз некалькі тыдняў. Пасля гэтага Вікторыя Фінская і АЙША распачнуць штурм беларускага музычнага алімпу.**




**Вікторыя Фінская на «Рок-губерталіях»**



**Нават уласнае вяселле яны пераўтварылі ў карнавал**

## Усё гэта рок-н-рол

З рок-музыкай Вікторыя Фінская сутыкнулася ўпершыню ў 12-год. 1989... У Гродна прыехаў знакаміты расейскі гурт «Арыя»...

*– Яны выступалі на адкрытай пляцоўцы на стадыёне «Чырвоны Сцяг». Гэта недалёка ад майго дому, але я спецыяльна залезла на дах, каб лепш было чуваць музыку. Мяне гэта так захапіла, што на наступны дзень я пастрыглася «пад вожыка»,* – успамінае **Вікторыя Фінская.** Гэтае дзіцячае захапленне і вызначыла яе далейшы лёс.

*– Я пачала слухаць «цяжкую» музыку... Тады, акрамя «Арии» з'явіўся яшчэ і «Чёрный Кофе»... Ну а потым захацелася і самой навучыцца граць на гітары. Першыя ўрокі мне даў настаўнік фізкультуры, які быў лідэрам школьнага ВІА,* – успамінае Вікторыя.

Захапленне музыкай вызначыла і выбар прафесіі. Пасля 9 класа Вікторыя паступіла ў Гарадзенскае вучылішча мастацтваў, дзе пазнаёмілася са сваім будучым мужам – барабаншчыкам Сяргеем Фінскім.

*– Усё, чаго я дасягнула ў жыцці, набыта, дзякуючы вучылішчу мастацтваў. Яно дало мне Сяргея... Ды што тут шмат казаць, яно дало мне ўсё... Падаецца, што пасля вучылішча можна толькі працаваць у клубе і атрымліваць марныя грошы... Але, усё, чым я сёння жыву, дало мне вучылішча..,* – гаворыць Вікторыя.

## Фінік

На той час Сяргей Фінскі (у народзе – проста Фінік) быў ужо дастаткова вядомым музыкантам у колах гарадзенскага андэграўнда. За яго плячыма быў удзел у брутальным хард-каровым гурце Wake UP. Менавіта гэты гурт, на пэўны час, акрэсліў накірунак развіцця гарадзенскай рок-сцены і быў у Гродне бясспрэчным лідэрам. Але на момант сустрэчы з Вікай, Сяргея ўжо стаміла экстрэмальная музыка. Свае музычныя эксперыменты ён працягнуў у гурце Jungle X-mas і беларускамоўным праекце АЙША.

*– Увесь час граць адное і тое ж надакучвае. АЙША – гэта быў больш мяккі праект. Стварайся ён спецыяльна пад Віку. Мы пазнаёміліся падчас уступных экзаменаў. Потым патрапілі ў адну групу і сядзелі за адной партай. Я пачаў падбіраць музыку пад яе вершы. Так усё і пачалося,* – успамінае **Сяргей Фінскі.** Па яго словах, назва АЙША з'явілася падчас размовы з сябрамі і спадабалася, бо атрымалася «прыгожае, экзатычнае спалучэнне літараў».

Сёння Сяргей Фінскі – не толькі рок-музыкант, але і паспяховы арганізатар рок-канцэртаў у Гродне.

## Слава прайшла побач

Вікторыя, акрамя беларускамоўнага праекта АЙША, удзельнічала яшчэ і ў – цалкам расейскамоўным – поппраекце вядомага гарадзенскага прадзюсера Вячаслава Лукашэвіча.

*– Гэта была «папса», але «папса» бывае рознай... Хоць накірунак, канешне, быў акрэслены... Я на ўсё жыццё запомніла, як мы сядзелі ў машыне побач з «Кафейняй», а Слава кажа: «Прыйдзе час – і я буду выступаць на адной сцене з Пугачовай.» Гэта была ягоная мэта... Ну я тады падумала:»Ну-ну, гавары-гавары...» А цяпер гляджу – яму ўжо недалёка засталося...*

Супольны праект праіснаваў нядоўга. На нейкі час, у выніку фінансавых складанасцяў, Вікторыя змяніла месца жыхарства, а калі праз паўтары гады вярнулася ў Гродна, дык убачыла побач з Лукашэвічам Вікторыю Дземянчук.

*– Я памятаю, як прыйшла на «сэйшэн» у «Гродна» і Слава мне кажа: «Вікторыя, тут твае песні спяваць будуць...» І выходзіць Дземянчук... Гэта быў яе першы выступ у горадзе... Песня «Арол» – гэта мая песня. Яна, канешне, была перароблена, але мая... Мне вельмі балюча было... Песні мае – кавалак душы, а спявае іх іншая...Я, нават, сварылася, а цяпер прыемна, што такім чынам я спрычынілася да іх славы,* – гаворыць Вікторыя.

У 1998 годзе гарадзенка Вікторыя Дземянчук атрымала другую прэмію на Міжнародным конкурсе маладых выканаўцаў эстраднай песні «Віцебск-1998». Сёння яна разам са сваім прадзюсерам Вячаславам Лукашэвічам, небеспаспяхова, спрабуе рабіць кар'еру ў Маскве.

## Пярэселка, «Беласток» і паэзія

Сёння Вікторыя разам з Сяргеям жывуць у прыватным доме на Пярэселцы, сумным занядбаным раёне горада, відавочна, спісаным на страты сённяшнім кіраўніцтвам Гродна.

*– Ці Пярэселка – гэта Гарлем? Ну не ведаю... Хаця, канешне, «неграў», гэта значыць, чорных ад злаўжывання алкаголем, тут шмат. Я б параўнала Пярэселку з беларускай вёскай. Усе ўсіх ведаюць – ёсць свая атмасфера... Канешне, восенню ці зімой тут цяжкавата, але затое вясной вельмі прыгожа. Калі б нам тут не падабалася, мы б змянілі месца жыхарства,* – гаворыць Вікторыя.

Кожны вечар Вікторыя спявае ў рэстарацыі «Беласток», з якога дарэчы выйшаў на прасторы шоў-бізнеса Валеры Скаражонак, лідар адной з рэінкарнацый славутых «Песняроў».

*– Рэстарацыя – гэта праца, а канцэрт – гэта творчасць... Але да працы таксама трэба падыходзіць прафесійна. У рэстарацыі спалучаецца прыемнае з карысным... Мне падабаецца спяваць і я спяваю кожны дзень. Рэстарацыя таксама мне шмат чаго дала... Гэта добрая трэніроўка для голаса. Ды і прыемна, калі пасля твайго выступа людзі падыходзяць, каб адзначыць твой голас. Гэтая праца дазваляе зарабіць на жыццё. Гэта невялікія грошы, але жыць можна. Такі стан рэчаў мяне задавальняе, таму што паняцці завод, фабрыка, дзве смены напаўняюць мяне жахам,* – сцвярджае Вікторыя.

АЙША – адзіны гарадзенскі гурт, які актыўна супрацоўнічае з вядомымі беларускімі паэтамі. У новым альбоме гурта будуць песні на вершы Дануты Бічэль і Юрыя Гуманюка

*– Вельмі прыемна працаваць з такімі людзьмі. Спачатку мы пазнаёміліся з Юрай. І амаль адразу пачалі з ім супрацоўнічаць. Чаму менавіта паэзія? Проста навокал столькі песен пра каханне, а творчасць і Юры і Дануты Янаўны, нягледзячы на ўсе адрозненні паміж імі, нязвыклая. Іх вершы адрозніваюцца ад таго, што спяваюць навокал... У нас было дзве песні, а тэкстаў да іх не было.. Калі мы ўбачылі вершы Дануты Янаўны, дык здзівіліся, бо яны, нібыта, спецыяльна для нас былі створаны. Мы ўскладаем вялікія надзеі на песню «Хлопчык маліцву спявае»,* – гаворыць Вікторыя.

## Рок-н-рольны шлюб

Праз трынаццаць гадоў знаёмства, Сяргей і Вікторыя сталі мужам і жонкай.

*– Калі ў ЗАГС-е сказалі, «абвяшчаю вас мужам і жонкай», усе нашыя сябры ў адзін голас уздыхнулі... Ну, нарэшце, дачакаліся... У нас вельмі ўдалая сям'я! У нас ёсць агульная справа.. Гэта аб'ядноўвае,* – пераканана Вікторыя.

Шлюб Вікторыі і Сяргея сапраўды ўразіў: у летніку «Юныя касманаўты» адбыўся сапраўдны карнавал, на якім прысутнічала амаль уся гарадзенская багема.

*– На вяселлі мы амаль, што не пабіліся за мікрафон,* – усміхаецца Вікторыя. – *На сваім уласным шлюбе, мы самааддана выконвалі ролю тамады... Ну што зробіш, калі мы з ім работнікі культуры.*

Незвычайным было ўсё: касцюмы маладых ( д'Артаньян і Канстанцыя), тамада, ролю якога выконваў дыктар гарадзенскага тэлебачэння Аляксандр Енджэеўскі, «жывая» музыка ад лепшых гарадзенскіх рок-гуртоў, стрыптыз ў выкананні прафесійных стрыптызёрак і, безумоўна, шлюбныя пярсцёнкі, якія для пары рокераў з саломы зрабіла гарадзенская мастачка Тамара Блудава.

*– Мне хацелася чагосьці незвычайнага. Я ж у рэстарацыі нагледзелася на нашыя вяселлі. Вось і прыдумалі мы такое,* – гаворыць Вікторыя.

*– Тое, што мы так доўга цягнулі, гэта вынік майго стаўлення да шлюбу, як да нейкай фармальнасці. Акрамя таго, было шмат выпадкаў у рок-тусоўцы, калі чалавек ажаніўся і знікаў... Пасля шлюбу я пастрыгся, і вось цяпер чуткі ходзяць, што нібыта мяне жонка пастрыгла,* – смяецца Сяргей.

## Будучыня

Калі б ў Гродне праводзіўся конкурс на званне Гарадзенскай рок-князёўны, без усялякага сумнення, ёй бы стала Вікторыя Фінская. Моцны экспрэсіўны голас і непаўторная цеплыня гарантуюць ёй гэтае званне. Але ці знойдзе АЙША сваё месца на музычным Алімпе? Адказаць адназначна на гэтае пытанне ў сёняшніх умовах нельга. Беларускамоўнаму гурту вельмі складана знайсці сваё месца ў краіне, дзе фактычна няма шоў-бізнеса, дзе сярод канкурсантаў фестывалю «Еўрабачэнне» няма ніводнай песні на роднай мове...

*– Музыка – гэта для мяне ўсё... Я не магу пабудаваць вежу, але я магу напісаць песню... Вельмі хочацца данесці сваю музыку людзям, прабіцца на радыё і тэлебачэнне. Калі не атрымаецца? Дык будзем граць для сябе. Музыка гучыць у маёй душы, і яна павінна мець выйсце...* – упэўнена заяўляе Вікторыя.

**Андрэй АДЛЯНІЦКІ**



■ **Данута Бічэль:** – Віка вельмі таленавіты чалавек, у яе вельмі прыемны і дастаткова нязвычайны для рока голас... Вельмі хацелася, каб яна «прабілася»... «Айша» зрабіла некалькі песен на мае вершы... Адна з іх – дастаткова рокавая, другая – больш лірычная... Да рока я заўсёды добра ставілася. Памятаю, калі «Беларуская Маладзёжная» ладзіла хіт-парад, дык я заўсёды арганізоўвала школьнікаў, каб яны паштоўкі дасылалі ў падтрымку «Мроі». Між іншым, дзякуючы такой дапамозе «Мроя» займала ў гэтым хіт-парадзе першыя месцы... Некалькі гадоў таму Н.Р.М. прыехаў і я таксама пайшла на канцэрт. Набываю ў касе білет, а ў мяне пытаюцца: Вы гэта для сябе? Ну я і кажу так. Дык касірка мне на дзевяты рад білет прадала, бо баялася, што мяне затопчуць... А там навокал мяне была моладзь, якая скакала і танчыла... Цудоўны канцэрт быў! Мне гэта такі зарад бадзёрасці дало.... Увогуле сенняшнія мае ўяўленні пра рок-музыку падмацоўвае мой унук, які сам спрабуе граць рок. Так што я за рок!

**Нарабілася**

**Наркадылера** – 29-гадовага беспрацоўнага гарадзенца – затрымалі аператыўнікі ў момант продажу некалькіх доз сінтэтычнага наркотыку метамфітаміну. Пры вобыску ў ягонай кватэры былі знойдзены 80 грамаў гашыша, 70 грамаў метамфітаміна і тры кілаграмы марыхуаны. «Трава» была расфасавана ў пакецікі па 20-100 грамаў. Гэта самая буйная партыя наркотыкаў, затрыманых у бягучым годзе. Аднаго граму парашка наркаманам хапае на 5-7 «доз», кожная з якіх у наркадылераў каштуе 15-20 даляраў ЗША.

■

**Амаль** дзве з паловай тысячы літраў спірту хаваў у сваім гаражы жыхар вёскі Малахавічы, што ў Гарадзенскім раёне. Алкаголь быў разліты ў 200-літровыя бочкі і маленькія каністры. Гаспадар гаворыць, што спірт набыў для ўласнага карыстання. Аднак, супрацоўнікі аператыўна-пошукавага аддзела УУС сцвярджаюць, што, як правіла, такія буйныя партыі безакцызнага алкаголю выкарыстоўваюць для вырабу «левай» гарэлкі ці вязуць на продаж у суседнюю Польшчу, дзе спірт каштуе ўдвая даражэй.

■

**Груз** коштам амаль 452 мільёны рублёў затрымалі гарадзенскія мытнікі на памежным пераходзе «Бераставіца«. Праз беларуска-польскую мяжу маскоўскія бізнесоўцы спрабавалі правезці 37 партатыўных рэнтген-апаратаў, якія выкарыстоўваюцца ў стаматалогіі. Каб знізіць кошт «растаможкі», уладальнікі груза амаль палову тэхнікі не ўнеслі ў дэкларацыю. Не выключана, што пасля суда сучасныя замежныя рэнтгены з'явяцца ў гарадзенскіх зубных паліклініках.

**Юлія ДАРАШКЕВІЧ**

# Жонка пракурора пад лупай органаў

**Аддзел па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі УУС Гарадзенскага аблвыканкама адмовіў ва ўзбуджэнні крымінальнай справы супраць дырэктара ТАА «Прамыслова-гандлёвая палата СПБ» Людмілы Сідо. За ўхіленне ад падаткаў і парушэнні заканадаўства Сідо прыцягнута да адміністрацыйнай і дысцыплінарнай адказнасці. Незаплачаныя фірмай падаткі ў памеры 3.584.577 рублёў вернуты ў бюджэт. Такі вынік праверак ТАА кантрольнымі органамі Гарадзенскай вобласці. Але ставіць кропку ў гэтай скандальнай справе яшчэ рана.**



*Упершыню Уладзімір Сідо праславіўся, калі абвінавачваў журналіста Паўла Шарамета*

«Улічваючы, што тэрмін праверкі скончыўся, а сабраных матэрыялаў недастаткова для фармавання доказнай базы суб'ектыўнага боку злачынства... ва ўзбуджэнні крымінальнай справы адмовіць», – гаворыцца ў пастанове следчага АБЭЗ Эдуарда Зубарэвіча.

*– Вынікам праверкі павінна стаць альбо ўзбуджэнне крымінальнай справы, альбо адмова ў яе ўзбуджэнні. Прычым, рашэнне следчага павінна грунтавацца на доказах. Выказванне «улічваючы, што тэрмін праверкі скончыўся, а сабраных матэрыялаў недастаткова», выклікае ўсмешку... Я абсалютна ўпэўнены, што гэтая пастанова будзе скасавана пракуратурай,* – так пракаментаваў ДНЮ рашэнне АБЭЗ былы следчы пракуратуры, які пажадаў застацца ананімным.

На думку аднаго з заснавальнікаў «Прамыслова-гандлёвай палаты СПБ» Зыгмунда Пелуця, ад моманту ўзначалляння фірмы Людмілай Сідо, там пачалі адбывацца падазроныя рэчы: супрацоўнікамі «Прамыслова-гандлёвай палаты», на працягу апошніх гадоў, неаднойчы парушалася падаткавае і валютнае заканадаўства..

*– ТАА арганізоўвала паездкі, аплата за іх бралася ў валюце. У матэрыялах праверкі ёсць паказанні людзей, якія за экскурсіі расплачваліся валютай. Улік грошаў не вёўся, нейкіх падцвярджанняў аплаты людзі не атрымлівалі... Куды далей пайшлі грошы, так і не высветлена. Людміла Сідо – жонка начальніка аддзела па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй пракуратуры Гарадзенскай вобласці Уладзіміра Сідо... Толькі гэтым я магу патлумачыць тое, што ўзбуджаць крымінальную справу адмаўляюцца на падставе недахопу часу,* – гаворыць **Зыгмунд Пелуць.**

У мінулым годзе дзейнасць ТАА «Прамыслова-гандлёвая палата СПБ» знаходзілася ў цэнтры ўвагі праваахоўных органаў. Па скарзе Зыгмунда Пелуця, праверкі фірмы праводзіліся Кантрольна-рэвізійным упраўленнем (КРУ) Міністэрства фінансаў па Гарадзенскай вобласці, Падаткавай інспекцыяй Ленінскага раёна Гродна і Аддзелам па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі УУС Гарадзенскага аблвыканкама. Па выніках праверак на фірму былі накладзеныя санкцыі ў памеры 15.867.019 рублёў. За ўхіленне ад падаткаў, завышаную выплату камандзіровачных расходаў і спісанне дызельнага паліва, Людміла Сідо была аштрафавана і прыцягнута да дысцыплінарнай адказнасці. За «поспехі ў працы» заснавальнікамі ТАА ёй вынесена вымова.

Але ставіць кропку ў гэтай скандальнай справе яшчэ рана. У поле зроку праваахоўных органаў патрапіла сумеснае прадпрыемства ТАА «Белдозамех». Як ужо высветліў АБЭЗ, «Прамыслова-гандлёвая палата», дырэктарам якой з'яўляецца Людміла Сідо, супрацоўнічала з СП ТАА «Белдозамех», заснавальнікам якой з'яўляецца тая самая Сідо. Гэтае супрацоўніцтва і выклікала цікавасць у следчых.

Пракуратура Гарадзенскай вобласці накіравала афіцыйны запыт у КРУ МФ РБ і Падаткавую інспекцыю па Гарадзенскай вобласці аб правядзенні рэвізіі фінансава-гаспадарчай дзейнасці фірмы і праверкі выканання падаткавага заканадаўства. Яе вынікі стануць вядомымі праз некалькі тыдняў.

**Андрэй АДЛЯНІЦКІ**

Тэлефануйце 72-29-96

**День змагаецца за вас**

# Справа №3: «Незаконны акт»

***Дырэктар сумеснага прадпрыемства «Экалагічныя праекты» прызнаўся, што даваў грошы, каб «вырашыць пытанне са звальненнем» працаўніка і «дзеля подкупа суддзяў, размовы з пракурорамі».***

Пра тое, што, на працягу апошніх трох гадоў, на сумесным беларуска-нямецкім прадпрыемстве «Экалагічныя праекты» адбываюцца дзіўныя рэчы, мы паведамлялі яшчэ ў пазамінулым нумары ДНЯ, калі завялі рэпарцёрскую Справу №1: «Працоўная кніжка» па скарзе экс-дырэктара Анатоля Іванова. Ужо тады нас здзівіла надзвычай лаяльнае стаўленне пракуратур Гарадзенскага раёна і вобласці да парушэнняў працоўнага заканадаўства з боку кіраўніцтва СП «Экалагічныя праекты».

Сёння мы раскажам пра незаконнае, на наш погляд, звальненне юрысконсульта гэтага ж прадпрыемства Уладзіміра Удалых.

## «Прагул» за выходныя

Як толькі новапрызначанае кіраўніцтва СП пазбавілася ад дырэктара Анатоля Іванова – адразу ж прынялося за юрысконсульта Уладзіміра Удалых. На трэці дзень пасля заняцця пасады, новы дырэктар А. Нічыпар паведаміў, што адхіляе яго ад працы. Юрыст не падпарадкаваўся. Тады, дырэктар дамогся, каб на пачатку траўня 2001 года Удалых пайшоў у адпачынак.

Што адбывалася цягам гэтага месяца на прадпрыемстве нам невядома. Згодна плану папярэдняга дырэктара, у траўні прадукцыя СП павінна была праходзіць працэдуру сертыфікацыі, каб улетку завод мог пачаць серыйны выпуск прэміксаў (харчовыя дадаткі да кармоў жывёлаў), якімі, ў перспектыве, планавалася завальваць не толькі ўсю Беларусь, але і кавалачак постсавецкага замежжа. Дзеля гэтага, дарэчы, і ствараласа СП, патэнцыял якога на ўрадавым узроўні – у прыватнасці: Мінсельгасхарчам, Міністэрствам замежных спраў ды іншымі аўтарытэтнымі ведамствамі – ацэньваўся вельмі высока.

Аднак, планам споўніцца не давялося, у чым ужо 5 чэрвеня (першы дзень працы пасля адпачынку) змог пераканацца юрысконсульт Удалых. Замест таго, каб займацца вытворчасцю, новы дырэктар, як высветлілася, задумаў ператасаваць працоўныя месцы работнікаў. Пры гэтым месца працы Удалых ён перанёс з Гродна ў вёску Квасоўка, нават не атрымаўшы (згодна заканадаўству) пісьмовай згоды. Юрыст, які, у адрозненні ад дырэктара, заканадаўства ведаў – і на працягу трох дзён (згодна працоўнай дамове) выходзіў на працу ў гарадзенскі офіс. Метамарфоза адбылася 8 чэрвеня. У гэты дзень Удалых «прывітаўся» не з калегамі па працы, а з зачыненымі дзвярыма. Пазней высветліцца, што па загаду Нічыпара, гарадзенскі офіс, у таямніцы ад Удалых, з'ехаў на іншую вуліцу горада.

Мэта тайнай перадыслакацыі стала зразумелай толькі ў панядзелак 11 чэрвеня, калі Нічыпар выдаў загад аб звальненні няўгоднага юрыста «за прагул без уважлівых прычынаў». Трэба сказаць, што дырэктар спрабаваў пры гэтым трымацца нейкай законнай працэдуры і нават склаў адмысловую паперу, якую пазней упарта называў «актам». Аднак пра тое, як павінен выглядаць акт, на падставе якога можна кагосці звольніць, хто і дзе павінен яго напісаць і зацвердзіць, кіраўнік СП раіўся, мабыць, толькі з квасоўскімі бабулькамі. Таму і атрымалася, што ў гэтым «акце» не знайшлося запісу ані пра службовую асобу, ані пра камісію, якія склалі гэты дакумент. Затое, у ім былі подпісы людзей, якія да СП не мелі ніякага дачынення. Каб было яшчэ смешней – «акт» быў складзены не ў Гродне (так ў ім напісана), а ў Квасоўцы. Да таго ж «дакумент» аказаўся нікім не зацверджаны і (трымайцеся за жываты) у лік «прагулаў» у ім аднесены два выходныя дні – субота і нядзеля.

## Кантора піша

У выніку амаль гадавой перапіскі з пракуратурай, нарэшце апісанага вышэй «дакумента», Уладзімір Удалых пачаў сумнявацца ў «дзеяздольнасці» некаторых службовых асобаў. Мы прачыталі толькі частку гэтай абшырнай карэспандэнцыі і таксама пачалі хвалявацца за стан здароўя большасці з іх. Мяркуйце самі. Галоўным момантам усіх заяваў чытача з'яўляецца просьба да пракуратуры – даць прававую ацэнку нічыпараўскаму «акту». Аднак, замест простага і яснага адказу на гэтае пытанне, пракуроры раённага і абласнога ўзроўню ўпарта адпісваліся фразамі кшталту: «у выніку праверкі, падставаў для ўзбуджэння крымінальнай справы не знойдзена».

Шаноўныя пракуроры, патлумачце ж нарэшце: такія вашыя адказы азначаюць, што Нічыпар склаў свой «акт» згодна з патрабаваннем закона? Ці такі «дакумент» можа мець нейкую законную моц? Толькі не трэба ізноў пра «крымінальную справу». Калі не можаце адказаць у двух словах (падказваем варыянты: «акт законны» ці «акт незаконны»), то лепш распавядзіце, чым вы хварэлі ў дзяцінстве і ці мелі, напрыклад, чэрапна-мазгавыя траўмы...

## «І пяць рублёў на подкуп пракурора»

Просім усіх сумленных работнікаў пракуратуры прабачыць нас за тон папярэдняга раздзела. Але нам здаецца, што ён атрымаўся менш абразлівы для гонару вашага мундзіра, чым беспакаральныя прызнанні пад прысягай дырэктара СП «Экалагічныя праекты» А. Нічыпара, падчас аднаго з судовых паседжанняў. Каб пазбегнуць магчымасці падвойнай інтэрпрэтацыі, працытуем ягоныя словы па-расейску так, як яны запісаныя ў пратаколе суда. Дырэктар Нічыпар распавядаў суду пра тое, дзеля чаго заснавальнікі СП перадавалі нейкаму чалавеку па прозвішчу Зюка, буйныя сумы наяўных грошай у рублях і валюце:



***Ці можна запляміць пракурорскі мундзір беспакаральным прызнаннем у подкупе пракурораў?***

*«Деньги передавались для решения следующих вопросов: во-первых, у нас были проблемы с приобретением сырьевых компонентов. У меня не было ни связей, ни способностей для решения этих вопросов. Также надо было решать вопрос по оплате долгов, которые немцы имеют в Германии. Для этого требовалась организация представительства фирмы «ЭПЕК», чтобы потом иметь возможность привозить через него сырье, реализовать как давальческое и рассчитываться с кредиторами,»* – тут дазвольце спыніцца, каб запытацца ў пракуратуры: які склад злачынства ўтрымлівае працытаванае прызнанне? Але самае цікавае, як заўсёды, напрыканцы: *«Наконец, деньги передавались Зюке, чтобы 100% – но решить вопрос об увольнении Удалых В. В. Не знаю, стоит ли об этом говорить, но как говорил Зюка, деньги нужны были ему для подкупа судей, разговора с прокурорами».*

Што тут можна дадаць? Мяркуючы па тым, што спадар Нічыпар, дагэтуль, дырэктар СП «Экалагічныя праекты»... Але, няхай чытач сам робіць высновы.

Мы ж зробім кароткую справаздачу па Справе №1: «Працоўная кніжка». На момант здачы гэтага нумару ў друк СП «Экалагічныя праекты» не выдала свайму былому дырэктару Анатолю Іванову працоўную кніжку і грошы. Такім чынам, па стане на 12 лютага 2004 года, сума запазычанасці СП нашаму чытачу склала 12.189.790 рублёў (зразумела – з улікам інфляцыі).

# 11 «Б» клас школы №11

**Сёння прапануем вам ацаніць яшчэ адзін выпускны клас. Гэтым разам у акцыі «Наша Будучыня» вырашыў паўдзельнічаць 11 «Б» клас сярэдняй школы №11. Нагадаем, што мэтай нашай акцыі з'яўляецца абвяржэнне стэрэатыпнага ўспрыняцця маладога пакалення як абыякавага, ні да чаго не здольнага і пазбаўленага жыццёвых арыенціраў.**

**Калі Вы - вучань выпускнога класа і хочаце, каб мы расказалі пра Ваш клас, звяртайцеся да нас па тэлефоне: 72-29-96.**



***Першы рад знізу** (злева направа): Алена Максімава, Святлана Макара, Вікторыя Шостак, Ірына Юрык, Кацярына Руцько. **Другі рад:** Вікторыя Ярашэвіч, Кацярына Семеннік, Вікторыя Хітрушка, Юлія Зіноўева. **Трэці рад:** Руслан Султанаў, Вольга Валько, Дзмітрый Ігнатаў, Аляксандра Царык. **Чацьвёрты рад:** Ігар Гайдзень, Аляксей Рамазанаў, Аляксей Баброўскі, Вячаслаў Кляменцьеў. **Пяты рад:** Аляксей Балдоўскі, Дзмітрый Глінскі, Яўген Далжэнка, Аляксандр Насань.*

**Алена МАКСІМАВА**

У дарослым жыцці свае канструктарскія здольнасці Алена плануе прымяніць у прафесіі інжынера. Але, мяркуючы па тым, што гэтая дзяўчына любіць слухаць музыку і чытаць мастацкую літаратуру, яе штодзённае жыццё не будзе пазбаўлена рамантыкі. Што ж датычыцца куміраў, Алена іх не мае і хоча заўсёды заставацца сабой.

**Святлана МАКАРА**

Ёй падабаецца спасцігаць унутраны свет чалавека, таму Святлана плануе вывучыцца на псіхолага. Любоў да музыкі і кнігаў, спадзяемся, дапаможа ёй у гэтым. А тое, што Святлана цэніць уласную індывідуальнасць, будзе вельмі дарэчы, калі ёй давядзецца дапамагаць людзям у падвышэнні іх самаацэнкі.

**Вікторыя ШОСТАК**

Таксама як і сяброўка, марыць стаць псіхолагам. Пакуль жа ўлюбёным заняткам Вікторыі, па-за школьнымі, зразумела, з'яўляецца слуханне музыкі. Дзяўчына, як сапраўдны псіхолаг, у іншых людзях найбольш цэніць іх індывідуальнасць. Гэта ж тычыцца і ацэнкі Вікторыяй самой сябе.

**Ірына ЮРЫК**

Будучы перакладчык, яна ўжо зараз паглыблена вывучае замежныя мовы. Акрамя таго, Ірына захапляецца музыкай і любіць пагутарыць па тэлефоне з сяброўкамі. Размаўляць з Ірынай, напэўна, вельмі цікава, бо яна не імкнецца паўтараць чужыя думкі і заўсёды застаецца сабой.

**Кацярына РУЦЬКО**

Мае вельмі добрае сэрца, частку якога заўсёды гатовая аддаць «братам нашым меншым». Менавіта таму, пасля заканчэння школы, Кацярына хоча вывучыцца на ветэрынара. У вольны час дзяўчына любіць слухаць музыку, чытаць і пагуляць на кампутары. Адзіным кумірам, якога прызнае Кацярына, з'яўляецца яна сама.

**Вікторыя ЯРАШЭВІЧ**

Калі споўніцца прафесійная мара Вікторыі то, не выключана, што перад намі – будучая старшыня аднаго з салідных банкаў. Пажадаем ёй, каб нягледзячы на строгі статус банкіра, у дарослым жыцці дзяўчына знаходзіла, як і сёння, час на адпачынак з сябрамі і забавы. Нашае пажаданне, напэўна, споўніцца, калі Вікторыя будзе хоць у нечым падобная на сваю ўлюбёную спявачку Мадонну.

**Кацярына СЕМЕННІК**

Дастаткова рэдкае ў сучаснай моладзі захапленне матэматыкай перадвызначыла Кацярынін выбар будучай прафесіі – бухгалтар-эканаміст. Матэматычны склад розуму не перашкаджае ёй цікавіцца таксама мастацтвам, у прыватнасці – музыкай, і бавіць з сябрамі час на дыскатэках. Непадобнасць ні да каго – адна з галоўных якасцяў, якую Кацярына цэніць у людзях.

**Вікторыя ХІТРУШКА**

Любоў да жыцця - гэтая якасць паўплывала на жаданне Вікторыі стаць лекарам, каб ратаваць жыццё іншым людзям. Зважаючы на тое, як дзяўчына бавіць свой вольны час – слухае музыку, чытае і глядзіць тэлевізар – яна чалавек сузіральны і не схільны да неразважлівых учынкаў. Куміраў Вікторыя не мае і хоча заўсёды заставацца сабой.

**Юлія ЗІНОЎЕВА**

Пакуль не выбрала сваю будучую прафесію, але, як і яе сяброўка, схіляецца да таго, каб стаць лекарам. Тэмперамент Юліі не дазваляе ёй доўга сядзець у хаце, і яна карыстаецца кожнай магчымасцю, каб пайсці на дыскатэку ці проста пашпацыраваць па вуліцах горада. Юлія не хоча быць ні да каго падобнай, таму што цэніць уласную індывідуальнасць.

**Руслан СУЛТАНАЎ**

Сярод аднагодкаў вызначаецца пачуццём патрыятызму і адказнасці за бяспеку нашай краіны. Таму, таксама, як яго тата, Руслан хоча стаць вайскоўцам. Сярод цывільных захапленняў хлопца можна адзначыць кампутарныя гульні. Што да аўтарытэтаў, Руслан, як носьбіт сямейнай дынастыі абаронцаў Айчыны, хоча быць падобным на бацьку.

**Вольга ВАЛЬКО**

Як чалавек творчы, Вольга хоча авалодаць прафесіяй цырульніка. «Каб кожны дзень дарыць людзям «свята прыгажосці,» – удакладняе яна. Па захапленнях дзяўчыны відаць, што яна вельмі неардынарная асоба – вырошчвае кактусы, грае на фартэпіяна і гуляе з сябрамі ў валейбол. Пра свайго куміра – маму, Вольга кажа: «Хачу быць такім жа выдатным цырульнікам як яна».

**Дзмітрый ІГНАТАЎ**

Прызнаўся ў тым, што хворыя зубы – гэта адзінае, што хвалюе яго сёння. Менавіта таму, хлопец хоча стаць стаматолагам. Пакуль што ўвесь вольны час Дзмітрый прысвячае кампутарным гульням. Паняцце «кумір» у яго атаясамляецца з «ідалам». Таму, як сапраўдны хрысціянін, хлопец падкрэслівае: «Я не патрабую ідалаў».

**Аляксандра ЦАРЫК**

Ёй вельмі падабаецца дапамагаць хворым, і яна вырашыла, што стане лекарам. Якім? Над гэтым пытаннем Аляксандра, пакуль што думае. У вольны час дзяўчына любіць гуляць у валейбол, калекцыянуе паштоўкі і каляндарыкі. У людзях Аляксандра цэніць перш за ўсё індывідуальнасць.

**Ігар ГАЙДЗЕНЬ**

Пасля заканчэння школы Ігар пачне асвойваць прафесію цырульніка, каб споўніць сваю мару і стаць стылістам-дызайнерам. Мяркуем, што першымі кліентамі хлопца стануць ягоныя сябры. Менавіта з імі, Ігар праводзіць увесь вольны час. Ігар не мае куміраў , бо ён цалкам задаволены самім сабой.

**Аляксей РАМАЗАНАЎ**

Як мінімум дзве рэчы не выклікаюць у яго пачуцця абыякавасці – кампутары і кандытарскія вырабы. Па прычыне такога дуалізму сваю будучую прафесію ён жартам акрэслівае: «Праграміст-кандытар». Большасць часу, пасля школьных заняткаў, Аляксей праводзіць ля кампутара. А самога сябе ацэньвае як «адзінага і непаўторнага». Таму і не мае куміраў.

**Аляксей БАБРОЎСКІ**

Чалавек, які паклапоціцца пра надзённую для нашай краіны энергетычную бяспеку, калі вывучыцца на інжынера-энергетыка. У змаганнях з расейскімі «чубайсамі», вядома ж, трэба быць у добрай фізічнай кандыцыі. Таму Аляксей дарма не губляе свой вольны час, а прысвячае яго баскетболу. Хлопец хоча быць падобным толькі на самога сябе.

**Вячаслаў КЛЯМЕНЦЬЕЎ**

З маленства захапляецца кампутарам і не ўяўляе для сябе іншай прафесіі, акрамя прафесіі праграміста. Увесь вольны час Вячаслаў таксама прысвячае кампутару. Вы спытаецеся, адкуль у хлопца такая прага да штучнага інтэлекта? Адказваем: бацька Вячаслава праграміст і, адначасова, самая аўтарытэтная асоба для сына.

**Аляксей БАЛДОЎСКІ**

У прафесійным жыцці хоча прысвяціць сябе сферы грамадскага харчавання і вывучыцца на бармэна. Нам здаецца, што найлепшыя гарадзенскія бары, клубы і рэстарацыі будуць змагацца за такога работніка. Чаму? Аляксей займаецца вольнай барацьбой і веданне ім адмысловых прыёмаў будзе дарэчы, калі спатрэбіцца супакоіць раз'юшаных наведвальнікаў. Куміраў Аляксей не мае, бо хоча заставацца самім сабой.

**Дзмітрый ГЛІНСКІ**

Яго можна ахарактарызаваць дзвюма словамі: «жартаўнік» і «лавелас». Але такіх прафесіяў няма, таму Дзмітрый, хутчэй за ўсё, стане фізікам. У вольны час хлопец слухае панк-рок і заляцаецца да дзяўчатаў. Каб вы змаглі ацаніць пачуццё гумару Дзмітрыя, працытуем ягоны адказ на пытанне: на каго ён хоча быць падобным? «На Жору з Бураты і, не ведаю чаму, але гэта будзе крута!»

**Яўген ДАЛЖЭНКА**

Прафесіяй будучыні лічыць энергетыку і менавіта ёй хоча прысвяціць сваё жыццё. На першым месцы сярод захапленняў Яўгена - рок-музыка. Акрамя таго, хлопец любіць чытаць. Асабліва фантастыку і дэтэктывы. Якасці, якія ён хоча развіць у сабе – мэтанакіраванасць і актыўная жыццёвая пазіцыя. Такім чалавекам, дарэчы, з'яўляецца старэйшы брат Яўгена.

**Аляксандр НАСАНЬ**

Любіць кампутары і ўсё, што з імі звязана. Таму ў дарослым жыцці хоча працаваць праграмістам, пажадана ў галіне барацьбы з кампутарнымі злачынцамі – хакерамі. Было б някепска, каб хлопец патрапіў працаваць у прадстаўніцтва сусветнавядомай кампаніі Microsoft. Тым больш, што яе стваральнік Біл Гейтс з'яўляецца кумірам Аляксандра.

**Прапануем прыняць удзел у галасаванні на лепшы выпускны клас Гродна. Дзеля гэтага – запоўніце купон і дашліце яго на адрас: 230025 г. Гродна, вул. Карла Маркса, 11 (2-гі паверх).**

**КУПОН-ЛАТАРЭЯ**

**Акцыя «НАША БУДУЧЫНЯ»**

Мне найбольш спадабаўся клас____ школы ______

Імя __________ Прозвішча ______________

Мой кантактны тэл. __________________

Адрас: ___________________________

**Штомесяц сярод атрыманых купонаў мы будзем разыгрываць тры паўгадовыя падпіскі на нашу газету. Па выніках галасавання напярэдадні выпускных вечароў будзе вызначаны найлепшы клас горада, якому «День» прысвяціць галоўную тэму аднаго з чэрвеньскіх нумароў.**

**Давайце знаёміцца з нашай будучыняй РАЗАМ!**

# З Ліможа – у Бардо

**на наступным тыдні перамесціцца экспазіцыя прац вядомых гарадзенскіх мастакоў .**

Прымеркаваная да калядаў выстава гарадзенскіх майстраў пэндзля і алоўка, карыстаецца неверагодным поспехам у Францыі. Летась айчынныя жывапісцы, графікі, габеленшчыкі і керамісты двойчы выстаўляліся ў горадзе-пабраціме Гродна – старадаўнім Ліможы.

– *Дзеля таго, каб беларуска-французскае супрацоўніцтва ў галіне выяўленчага мастацтва не перапынялася, па ініцыятыве лідара мастацкае суполкі Ліможа скульптара Патрыка Банэ паўстала новая творчая арганізацыя пад назвай «Артклуб»,* – паведаміла ДНЮ куратарка леташніх выставаў беларускіх мастакоў у Ліможы **Марыя Мацко.** – *Узначаліў яе спадар Эрвэ Гоўсерль, які ўзяў на сябе абавязкі арганізацыі выставаў беларускіх мастакоў у іншых гарадах Францыі.*

І вось, на наступным тыдні ў знакамітым французскім горадзе Бардо адкрыецца экспазіцыя жывапісу Сяргея Грыневіча і Аляксандра Сільвановіча, мастацкага кавальства Юрася Мацко і керамікі Васіля Мартынчука. На выставе таксама будуць прадстаўлены працы лідара знакамітай менскай мастацкай суполкі «Няміга» Леаніда Хобатава.

**Вацлаў Галімскі**

*Дурноты нашага жыцця*

# Гігантаманія

**Шчыра кажучы, мяне страшэнна напалохала прэзідэнцкая пастанова аб рэканструкцыі беларускай часткі Аўгустоўскага каналу. Улады хочуць туды звабіць замежных турыстаў і падзарабіць? Барані Божа, каб чарговае аднаўленне помніка гісторыі і архітэктуры не сталася катастрофай для унікальнага прыроднага ландшафту.**

Можна зразумець нечуваную радасць чыноўнікаў ды істэрычны аптымізм журналістаў дзяржаўных медыяў, якія іх абслугоўваюць на ідэалагічным фронце. Уяўляю, як супрацоўнікі будаўнічых фірмаў ужо паціраюць далоні ў прадчуванні выгадных заказаў. У пакуль яшчэ не загаджаным паветры разносіцца наркатычны водар вялікіх грошай. Ужо нават падлічылі прыбытак, які будзе прыносіць адбудаваны Аўгустоўскі канал. Падзялілі шкуру незабітага мядзведзя!

А як жа! Пазайздросцілі суседзям-палякам, якія, нібыта, эсплуатуючы Аўгустоўскі канал у турыстычных мэтах, каўшамі грабуць замежную валюту. Маю і я знаёмых у Аўгустове, якія сцвярджаюць, што тыя вялікія прыбыткі – звычайнае фуфло! Насамрэч, улетку пакатаюцца на лодачках і байдарачках невялікія купкі аматараў воднае грэблі, пазагараюць, пап`юць піўка і... do widzenia!

Паводле прэзідэнцкага дэкрэту ўсе працы маюць быць завершаныя ў 2006 годзе. Ах, мама родная! Значыць, аднаўляць беларускую частку каналу будуць крэйсерскімі тэмпамі, на хуткую руку, каб датэрмінова апрыходваць грошы з дзяржаўнай казны і адрапартаваць аб здачы аб`екту. А там хай хоць трава не расце!

Пакуль жа яна, сакавітая і росная, сцелецца ў сваім спрадвечным выглядзе. І птушкі спяваюць, віючы свае гнёзды, і зайчыкі бегаюць па паблізкіх лясных палянках. Як у сапраўдным выраі! Уяўляеце, што будзе, калі купка высокапастаўленых дзяржаўных здзірцаў нашле на гэтую маленькую Беларускую Аркадыю армію кранаў, бульдозераў ды прагных галадамораў і галавацяпаў?! А яны ўжо, наваліўшы дзесяткі-сотні тон цэменту, цэглы ды іншага паскудства разгуляюцца на прыродзе з гіганцкім размахам. І паплывуць па тым унікальным канале не качкі і рыбы, а вясёлкавыя плямы нафты й мазуты...

А можа яшчэ не позна амовіцца ад хвараблівай гігантаманіі ды проста акуратна пачысціць канал і захаваць, як унікальны помнік інжынернага майстэрства XIX стагоддзя. Не дадумаліся ж італьянцы, каб звабіць большую колькасць турыстаў, аднавіць Калізей...

**Юры ГУМЯНЮК**



*Перадузяты агляд прэсы*

# Пяць з паловай хворых

*«Разумных бараноў наогул жа нямнога,*
*А гэты – дык дурней дурнога...»*

*Кандрат КРАПІВА*

**Сябры, перад сённяшнім аглядам газетаў, хачу патлумачыць Вам, чаму ў поле майго свінскага зроку трапляюць толькі два выданні – «Вечерний Гродно» і «Биржа информации». Дзеля гэтага падзялюся ўспамінам са сваёй маладосці.**

Вучыўся я ў адной вядомай – у шырокіх колах абмежаваных :-) звяроў – журналісцкай школе, у якой выкладаў знакаміты Свінтусоід Кабанавіч Мега-Грандыёзусус. Менавіта ў яго, я з сябрамі, тады ўсе мы былі толькі свінтусікамі-мінімізусікамі, браў першыя заняткі «шчаўкапёрскага» майстэрства. Выглядала гэта так, што мы аддавалі спадару Свінтусоіду сваю пісаніну, а праз нейкі час ён вяртаў нам, пачырканыя чырвоным стрыжнем працы, уголас распавядаючы пра недахопы толькі некаторых з іх. Чаму «некаторых»? Адкажу словамі Свінтусоіда Кабанавіча: *«Тыя працы, якія я аддаю моўчкі, не цягнуць нават на «двойку». А абмеркаванне гэтых сачыненняў маральна б знішчыла іх аўтараў».* Цяпер зразумела, чаму ў сваім аглядзе прэсы я абмяжоўваюся толькі «ВГ» і «БИ»?

***

«**Вечерний Гродно**» на мінулым тыдні пісаў пра вядомую гарадзенскую спявачку і аўтарку песень Алену Пячыніну, якой, пасля такога «піяра», можна толькі паспачуваць. Паводле «ВГ» спадарыня Пячыніна, распавядаючы пра адзін са сваіх канцэртаў, сказала:

*«После* ***15-минутного реверанса*** *я выхожу на сцену и вижу полупустой зал».*

Мушу прызнацца, што я б таксама выйшаў з залы, калі б артыст перад канцэртам напрацягу пятнаццаці хвілінаў займаўся паклонамі. Але мне чамусьці здаецца, што Алена Пячыніна распавядала не пра **рэверанс**, а пра **канферанс**, не падазраючы пра тое, што рэдактары «ВГ» **не адрозніваюць гэтыя паняцці.**

У гэтым жа артыкуле «ВГ» уклаў у вусны Пячынінай, якая хвалілася сваімі добрымі адносінамі з дачкой, яшчэ адно прызнанне:

*«Это достаточно редкий случай, когда* ***у родителей*** *такие отношения».*

Сапраўды, рэдкі выпадак, калі дачка адначасова з'яўляецца «бацькам» для сваёй маці. Ці гэта ізноў фантазіі «ВГ»?

***

Калі на пазамінулым тыдні ў вячэрнім эфіры АНТ вы глядзелі мастацкую стужку «Чатыры пяра», то, напэўна, памятаеце сцэну выступу аднаго з герояў – сляпога ветэрана вайны Брытанскай імперыі з жыхарамі адной з калёніяў у Афрыцы. У **«Бирже информации»** таксама **паглядзелі фільм і «творча» выкарысталі** фрагмент згаданага выступу ў артыкуле пра вайну Савецкага Саюза ў Афганістане:

*«За тысячи километров от дома, сражаясь на чужой земле, они всегда чувствовали, что война идет за того, кто слева и справа. Потом, когда империя распадется – все, что останется – это память о драгоценных моментах, когда боевые друзья были плечом к плечу».*

Калі б працытаваны фрагмент быў «БИ» ўзяты ў двукоссе і мелася спасылка на фільм – я б нікога не падазраваў у **плагіяце.**

***

«**БИ**» на мінулым тыдні адзначылася яшчэ адным рэдактарскім «перлам» і выпусціла ў свет наступную сенсацыю:

*«По последним данным зарегистрировано около* ***пяти с половиной*** *случаев ВИЧ* ***инфицированных и больных*** *СПИДом».*

Мяне асабліва цікавіць той чалавек, які, паводле «БИ», захварэў **напалову.** Калегі, калі ласка, вазьміце ў яго інтэрв'ю!

Заўсёды да Вашых паслугаў,

**Свінтус ГРАНДЫЁЗУС**

*Тэлефоннае апытанне гарадзенцаў*

# «Ёсць у нас адзін Валянцін...»

**Калі планаваўся гэты нумар, тэма апытання з'явілася сама сабой. «Напярэдадні 14 лютага з гарадзенцамі трэба размаўляць пра каханне» – казалі ў адзін голас супрацоўнікі рэдакцыі. Сфармуляваць жа пытанне дапамагла нашая чытачка Ліза, якая папрасіла даведацца, каго віншуюць са «святам закаханых» жыхары нашага горада. Ліза прызналася таксама, што апытанне, у якасці «валянцінкі», хацела б прысвяціць свайму каханаму Іллі.**

Мы з задавальненнем выканалі просьбу Лізы і спыталіся ў жыхароў Гродна: Каго Вы павіншуеце з Днём Святога Валянціна?

## «Нікога» – 16%

Столькі апытаных, па розных прычынах, праігнаруе надыходзячае свята.

«Мой каханы ўжо памёр і я не маю каго віншаваць», – сказала адна з гарадзенак. Тых, хто назаўсёды страціў сваю «палавінку», аказалася ажно 9 чалавек. У іх лік, дарэчы, не патрапіў ні адзін мужчына.

Прадстаўнікоў моцнай паловы не знайшлося і сярод тых (6 суразмоўніц), хто яшчэ шукае сваё каханне.

Але вельмі ўразіла нас гісторыя жанчыны сталага ўзросту, якая марыць вярнуць «першае каханне», пакінутае 25 гадоў таму ў Казахстане. «Нядаўна я там была і спрабавала яго знайсці, але не змагла» – пажалілася жанчына і выказала намер адшукаць каханага праз тэлепраграму «Жди меня».

## «Каханага чалавека» – 84%

Цешыць, што ажно 36 чалавек прызналася ў каханні да свайго мужа ці жонкі. «Мы жывем разам амаль 40 гадоў і чым далей, тым больш я цаню ў ім шчырасць. Пры чым не толькі ў адносінах да мяне, але – увогуле» – прызналася ДНЮ пенсіянерка. Маладзейшыя жонкі хвалілі сваіх мужоў за «пяшчоту», «сціпласць», «працавітасць» і нават «невядома за што». «Можа за тое, што і ён мяне кахае?» – разважала адна з іх. Мужчыны часцей за ўсё падкрэслівалі ў сваіх паловах «прыгажосць» і «тэмперамент». «За працавітасць» пахваліў толькі адзін. Але найбольш забаўная размова атрымалася з гарадзенцам, якога пытанне пра станоўчыя якасці жонкі азадачыла. У хвіліну ягонага роздуму мы пачулі ў слухаўцы жаночы голас, які даносіўся, відавочна, з суседняга пакоя: «Хопіць ужо балбатаць па тэлефоне, кладзі слухаўку!»

Самая рамантычная катэгорыя апытаных – маладыя закаханыя хлопцы і дзяўчаты – склала 12%. Шкада, што большасць з іх выказвалася занадта лаканічна. «За дабрату» – сказала адна з дзяўчын, калі мы пацікавіліся, за што яна кахае свайго абранніка. Толькі адзін «жаніх» распавёў пра сваю пасію падрабязней: «Зграбная прыгожая бландынка з супер фігурай. І яшчэ, яна надзвычай кемлівая...»

Каханню, як вядома, не перашкаджаюць нават сямейныя вузы і ажно 5 чалавек прызналася, што падорыць «валянцінку» каханку ці каханцы. Як мінімум, адной гарадзенцы зрабіць гэта будзе асабліва зручна, бо: «Майго каханка як раз і завуць Валянцін».

«Выпадкова» патрапіў у групу «закаханых» 31 апытаны. Гэтыя людзі вызначылі аб`ектам сваёй сімпатыі кагосці са сваякоў. Але самым арыгінальным падаўся нам адказ мужчыны, які заявіў: «Ёсць у нас на працы адзін Валянцін, вось яго і павіншую».

**А. ПЫТАЛЬНІК**

*Каго вы павіншуеце з Днём Святога Валянціна?*

нікога 16%

каханага чалавека 84%

0 10 20 30 40 50 60 70 80 90


ДЕНЬ

Галоўны рэдактар **Мікола Маркевіч**

Рэдактар нумару **Павал Мажэйка**

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Рэгістрацыйны нумар 1587 ад 5.11.2003.
**Адрас рэдакцыі:** 220050, г. Мінск, вул. Інтэрнацыянальная, д. 16, пакой 226.
**Адрас для лістоў:** 230025 г. Гродна, вул. К.Маркса, 11
**Тэл.:** (0152) 72-29-96, (017) 206-55-08 **E-mail:** pagonia@promedia.by

Нумар газеты надрукаваны
на ФДУП «Смаленскі паліграфічны камбінат»,
214020, г. Смаленск, вул. Смальянінава, 1.
Наклад 5000 паасобнікаў. Замова № 8061
Аб`ём – чатыры ўмоўныя друкарскія аркушы.
Падпісаны да друку 11.02.2004 у 01:00.